www.nv-online.info

№ 5 (3746)

18 студзеня 2013 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

КАЛОНКА РЭДАКТАРА

# Пасля прэс-канферэнцыі...

Для сябе я даўно вырашыў не ўдзельнічаць у масоўках. Таму і не пайшоў на прэс-канферэнцыю, якую днямі ладзіў А.Лукашэнка.

Наша прадстаўніца Алена Малочка задала тыя пытанні, якія захацела задаць, і ў той трактоўцы, якую палічыла мэтазгоднай. Як кажуць, вольнаму воля!

Падчас дыялогу з журналісткай Аляксандр Рыгоравіч праявіў увагу да маёй персоны. Пад такім вуглом, што мне як быццам і крыць няма чым. Сапраўды, хоць сто табурэтак падстаўляй, але я *"не дацягнуся да Якубовіча"*. І на самай справе: як у такім выпадку яго *"освободить, а меня назначить главным редактором газеты "Советская Белоруссия"?..*

Аляксандр Рыгоравіч, не абцяжарвайце сябе лішнімі клопатамі. "Советскую Белоруссию" я прайшоў з 1978-га па 1990 год, ад загадчыка аддзела да першага намесніка галоўнага рэдактара. Пачынаў, калі тыраж быў меней за 200 тысяч экзэмпляраў, а пакідаў пры накладзе больш за паўмільёна. "Зінінская школа" стала трывалейшым падмуркам для работы ў парламенцкай "Народнай газеце", з якой Вы мяне выturылі, калі тыраж пераўзышоў 700-тысячную мяжу.

Ды што тут вяртацца да ўчарашняга дня?!

А што тычыцца дня сённяшняга, то скажу так: Павел Якубовіч ёсць Павел Якубовіч, а Іосіф Сярэдзіч ёсць Іосіф Сярэдзіч. Ну хоць забіце мяне, але я не змагу рабіць такую газету, як сённяшняя "Советская Белоруссия". Ды і другая такая вам, Аляксандр Рыгоравіч, і дарма не патрэбна. Паверце мне. Ды і самі Вы фактычна гэта ж пацвердзілі. Вы пагадзіліся з Аленай Малочка ў тым, што *"требование времени — знать альтернативную точку зрения".* Нават пастараліся развіць гэтую думку: *"И если руководитель перестает слушать альтернативную точку зрения, его мгновенно нужно убирать с этого поста. Особенно президента. Это заведет в дебри. При нашей диктатуре, как вы говорите, и авторитарной власти. Тут ой как нужно слушать альтернативные точки зрения. Я даже "Народную Волю" иногда читаю. Там есть альтернативная точка зрения".*

Ці ж не кроплі алею на душу! Таму яшчэ раз падкрэсліваю: не патрэбны вам, Аляксандр Рыгоравіч, дзве "Советские Белоруссии". Трэба ж некаму і прэзідэнта крытыкаваць (калі ён гэтага заслугоўвае). Ці таго, хто "вышэй за Бога", нельга? Некалі за такое некарэктнае параўнанне Вы не адпэндзілі таго ж брэсцкага "губернатара" Сумара, але, я мяркую, "вышэй за Бога" сябе не лічыце. Таму не перажывайце, што я *"не дацягваюся да Якубовіча"* і Вы не можаце мяне прызначыць галоўным рэдактарам газеты "Советская Белоруссия". У "Народнай Волі" я прынясу больш карысці. Краіне.

Вось толькі адна закавыка. За няпоўныя 18 гадоў "Народная Воля" вымушана была тройчы, кожны раз па тры гады, друкавацца за мяжой — у Літве, Расіі. Каму ад гэтага была карысць? Толькі не нашай краіне. Не нашаму грамадству. Не нашай дзяржаве. Не мне і не вам, Аляксандр Рыгоравіч.

"Народная Воля" б'ецца як рыба аб лёд за выжыванне. Падтрымаць бы яе, а тут іголкі падкідваюць з усіх бакоў! Бывае, з мухі раздзьмуць такога слана, што ў чытачоў вочы на лоб вылазяць. Вось і пасля прэс-канферэнцыі да мяне ўжо звярнуліся некалькі чалавек з адным і тым жа пытаннем: "Што за матэрыялы вы друкуеце, аўтараў якіх не можа знайсці Адміністрацыя прэзідэнта?" Гэта, Аляксандр Рыгоравіч, рэакцыя на вашы словы: *"Вот напишете какую-то гадость. Вижу — ну не может быть этого в нашей стране. Вызываю немедленно помощника, разберитесь... Начинают разбираться, говорят: Александр Григорьевич, такого человека нет. А он жалобу какую-то написал через "Народную Волю"... Во-первых, сразу думаю: почему не в "Советскую Белоруссию"?"*

Сапраўды, чаму людзі пішуць скаргі не ў "Советскую Белоруссию", а ў "Народную Волю"? На гэтае пытанне мне не з рукі адказваць, лепш спытайцеся ў шараговых грамадзян. Я, хоць і без задавальнення, але патлумачу наконт публікацыі матэрыялаў *"неўстаноўленых аўтараў".* Загадкавая фармулёўка — *"неўстаноўленых аўтараў".* Ці трэба вам, Аляксандр Рыгоравіч, нагадваць, калі яна ўпершыню з'явілася? 17 сакавіка 1995 года пад Вашым указам №113. Вось другі яго пункт: *"За публікацыю матэрыяла пад рубрыкай "Пісьмо да Прэзідэнта" неўстаноўленага аўтара ў "Народнай газеце" за 10 сакавіка 1995 года, які заклікае да насілля і грамадзянскага процістаяння, вызваліць ад пасады галоўнага рэдактара гэтай газеты Сярэдзіча Іосіфа Паўлавіча".*

Караля робіць світа, сцвярджае народная мудрасць. Пад указам, Аляксандр Рыгоравіч, ваш подпіс, а скажыце шчыра, хто яго Вам рыхтаваў — "малявальшчык" новага герба, тагачасны кіраўнік Адміністрацыі Лёня Сініцын ці сумнавядомы палкоўнік-перабежчык (ад Кебіча да Вас), новаспечаны ідэолаг Уладзімір Заметалін? Хто з іх падлажыў Вам такую свінню? Хто ў той дзень схаваў ад Вас тую ж "Народную газету" са спецыяльным артыкулам рэдакцыйнай калегіі? *"Наверх" пайшла інфармацыя, быццам бы аўтар — "ліпавы". Мусім растлумачыць: аўтар быў зусім не "ліпавы" — ён проста скарыстаў гарантаванае законам права на псеўданім. Яго сапраўдныя прозвішча і адрас рэдакцыі вядомы",* — акцэнтавалася ў звароце рэдакцыйнай калегіі. Але каму патрэбны быў гэты зварот? Указ з'явіўся, нягледзячы на тое, што *"неўстаноўлены аўтар",* а менавіта — Рэгіна Зімніцкая, выкладчыца школы Алімпійскага рэзерву, адразу ж прыехала ў Вярхоўны Савет, правяла прэс-канферэнцыю, адкрыта расказала, што яе падштурхнула напісаць артыкул з вялізнай назвай *"Я терплю и буду терпеть сколько нужно и какие угодно лишения, работать не покладая рук, без сна и отдыха, но лишь когда буду уверен[а] в счастливом будущем своей Родины — Беларуси".* Дарэчы, ліст Рэгіны Зімніцкай меў глыбока патрыятычны характар, ні да якога насілля і грамадзянскага процістаяння ён не заклікаў.

Можна было б не ўзгадваць той ваш Указ, Аляксандр Рыгоравіч, кропкі ў ім паставіць гісторыя. Але ж кожны раз, калі Вы сустракаецеся з журналістамі, з вашых вуснаў злятаюць словы пра нейкіх "неўстаноўленых аўтараў". Таму мая памяць міжволі пракручвае дэталі, звязаныя з распраўай нада мной у "Народнай газеце", якая тады была афіцыйным друкаваным органам Вярхоўнага Савета. Шкада, што сёння няма ні **таго** Вярхоўнага Савета, ні **той** "Народнай газеты"...

Няўжо, Аляксандр Рыгоравіч, некаму з вашага атачэння і сёння хочацца маёй крыві? Скажу чэсна: за 18 гадоў ні адзін ваш чыноўнік не патэлефанаваў і не пацікавіўся, адкуль узяўся той ці іншы матэрыял, хто яго аўтар, як з ім звязацца? Мы, рэдакцыя, у прынцыпе супраць ананімнасці, я асабіста аб гэтым не аднойчы пісаў, але, пагадзіцеся, трэба лічыцца і з законным правам грамадзян. Тое, што чалавек мусіць "падстрахоўвацца", хавацца за псеўданімам, наводзіць на сумны роздум, якія дрэнныя яшчэ ў нас справы з галоснасцю, крытыкай, плюралізмам.

І наогул — што галоўнае: хто аўтар публікацыі ці наколькі факты адпавядаюць рэчаіснасці? Назавіце, Аляксандр Рыгоравіч, рэдакцыю хоць адной дзяржаўнай газеты, якая б так прынцыпова, патрабавальна ставілася да кожнага слова, да кожнай коскі, да кожнай кропкі, як гэта робіцца ў "Народнай Волі"! У рэшце рэшт, журналісты, няштатныя аўтары — жывыя людзі, яны, як і ўсе астатнія, не застрахаваныя ад нейкіх хібаў у рабоце. Не выпадкова заканадаўца прадугледзеў меры па іх выпраўленні. У "Народнай Волі" з першага нумара дзейнічае святое правіла — любая памылка, любая недакладнасць павінны быць выпраўлены. І Вы гэта бачыце па старонках газеты.

...У каторы раз перачытваю на экране камп'ютара стэнаграму прэс-канферэнцыі Аляксандра Рыгоравіча і лаўлю сябе на думцы: а можа, усё ж трэба было пайсці? Нейкімі ж вельмі нясмелымі, баязлівымі выглядалі многія мае калегі па прафесіі. На жаль, не выдзелілася і прадстаўніца "Народнай Волі". Яна не змагла ў Вас адкрыта спытаць, калі ў нас будуць чэсныя выбары? Альбо: калі тыя, хто загубіў Ганчара, Захаранку, Красоўскага, Завадскага і іншых вядомых людзей, паўстануць перад судом? Чаму дзяржава не можа дазволіць прыватызацыю газетных кіёскаў (пра што пісала "Народная Воля"), але гатова з малатка прадаць "Беларуськалій", МТЗ, Мінскі аўтамабільны і іншыя буйнейшыя заводы, якія з'яўляюцца багаццем усяго народа? Чаму пачалося будаўніцтва атамнай станцыі без правядзення агульнанацыянальнага рэферэндуму? Ці будуць урэшце створаны ўмовы для развіцця палітычных партый? Калі спыніцца раскол грамадства?

Пабаялася Алена Малочка задаць вам, Аляксандр Рыгоравіч, пытанне, якое рубам стаіць ужо не першы год перад усёй нацыяй: калі Беларусь стане сапраўднай Беларуссю і ці не згінем мы, беларусы, наогул? Настолькі глыбока трапілі ў пашчу "вялікага суседа", што заўтра ўжо позна будзе і ратавацца. Сёння гэта трэба рабіць! Сёння! Не канфліктаваць паміж сабой, а аб'ядноўвацца дзеля агульнага ўратавання! Тэрмінова і ўладам, і апазіцыі, і ўсім-усім садзіцца за стол перамоў, ствараць Нацыянальны камітэт выратавання Беларусі — і дзейнічаць рашуча ў інтарэсах краіны, у інтарэсах дзяржавы, у інтарэсах кожнага, хто жыве на нашай святой зямлі.

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Атрымаць дазвол на пікет не ўдаецца, нават выканаўшы ўсе патрабаванні

*Актывісты з Наваполацка ўжо тройчы падавалі заяўкі на пікеты салідарнасці з палітзняволенымі і супраць збяднення беларускага насельніцтва ва ўмовах сучаснай эканамічнай палітыкі.*

Тры разы ім адмаўлялі, у тым ліку і па прычыне адсутнасці дамоў на абслугоўванне акцыі... Рыхтуючы чарговую заяўку на акцыю, актывісты вырашылі выканаць усе патрабаванні гарадскіх улад, але дамовы з міліцыянтамі і медыкамі ім заключыць так і не ўдалося.

Заяўку ў гарвыканкам было вырашана падаваць 19 студзеня. Але паколькі цяпер да заяўкі трэба прыкладаць дамовы з міліцыяй і медыкамі, то ў міліцыю звярнуліся загадзя, 5 студзеня. У гарадскім аддзеле міліцыі ім прапанавалі напісаць заяву на імя начальніка ў адвольнай форме.

Праз чатыры дні заяўнікі зайшлі ў гараддзел міліцыі, каб пацікавіцца вынікамі. Аказалася, што заяву ніхто не разглядаў. А калі яна трапіла да начальніка ГАУС Д.Разянкова, той сказаў, што яна "складзена не па форме" і разгляду не падлягае. Як скласці заяву і дамову на ахову пікета і пікетоўцаў належным чынам, супрацоўнік міліцыі патлумачыць адмовіўся.

Дзівосы адбыліся і з медыкамі. Прычым прадстаўнікі гарадской бальніцы самі склалі гэтую дамову, якую праз некалькі дзён самі ж і анулявалі. Такім чынам, сітуацыя падобна на непрыкрыты здзек. Хаця артыкул 35 Канстытуцыі вызначае: "Свобода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, якія не парушаюць правапарадак і правы іншых грамадзян Рэспублікі Беларусь, гарантуецца дзяржавай".

Вось яна, свабода, і вось яны, гарантыі...

**Алена НОВІКАВА.**

УЧОРА

## Засыпае зіма, засыпае...







*Беларусь трапіла пад снежную раздачу нябеснай канцылярыі.*

**Паводле звестак Рэспубліканскага гідраметэацэнтра, з 21 гадзіны 16 студзеня да 9 гадзін раніцы 17 студзеня ў Мінску выпала 23% месячнай нормы ападкаў!**

**Дабавілася работы камунальшчыкам, якіх кінулі на барацьбу са стыхіяй. Для дворнікаў у Мінску, напрыклад, нават працягнулі працоўны дзень.**

**Складанай была і сітуацыя на дарогах. Снежныя завірухі правакавалі на дробныя ДТЗ, пробкі на дарогах сталі звычайнай з'явай.**

**Дарэчы, па прагнозах сіноптыкаў, снег будзе ісці і сёння. А на выхадныя, на Вадохрышча, традыцыйна ўзмоцніцца мароз.**

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**
**Фота "Народнай Волі" і "Нашай Нівы."**

КАДРЫ

## «По собственному желанию»

*Уволен председатель Белорусского военного суда*

Председатель Белорусского военного суда полковник юстиции **Андрей Чижов** написал заявление о сложении с себя полномочий судьи и председателя суда по собственному желанию. Александр Лукашенко это желание удовлетворил.

Ситуация по всем меркам неординарная. Во-первых, чиновники такого ранга по собственному желанию уходят крайне редко. Некоторые, отпраздновав 70-летний и даже 75-летний юбилей, делают вид, что полны сил и энергии и готовы работать, будто молодые. А вот Андрей Чижов, которому до пенсионного возраста еще служить и служить, решил покинуть пост самостоятельно.

Во-вторых, указ об отставке появился почти одновременно с началом рассмотрения в Военном суде дела бывшего заместителя министра внутренних дел Евгения Полудня. Процесс проходит в закрытом режиме, никакие подробности не известны.

Вообще, Военный суд разбирает самые неприятные дела (в смысле дела, возникающие в результате борьбы силовых кланов).

С сентября прошлого года военные суды (трибуналы) заняли особое, исключительное место в судебной системе и в целом в государстве. Согласно изменениям в национальном законодательстве, уголовные дела по преступлениям, совершенным гражданами, имеющими статус военнослужащих, лиц рядового и начальствующего состава органов внутренних дел, Следственного комитета, органов финансовых расследований Комитета государственного контроля, органов и подразделений по чрезвычайным ситуациям, прокурорских работников, должностных лиц таможенных органов, были выведены из юрисдикции гражданских судов и стали подсудны исключительно военным судам. То есть в компетенции Военного суда сейчас оказались такие дела и такие подсудимые, что председатель Военного суда Андрей Чижов решил уволиться по собственному желанию.

**Олег СНОВ.**

ДИПКУРЬЕР

## Послом Литвы в Минске может стать Эвалдас Игнатавичюс

*Бывшего вице-министра иностранных дел Литвы Эвалдаса Игнатавичюса предлагают назначить на пост главы Посольства Литвы в Беларуси.*

На этой неделе его кандидатуру одобрил парламентский Комитет по иностранным делам.

Сейчас обязанности Временного поверенного в делах посольства в Минске занимает Йонас Даниляускас. Пост посла остается свободным с начала декабря, когда президент Литвы Даля Грибаускайте отозвала с этой должности Линаса Линкявичюса. Он назначен министром иностранных дел.

Игнатавичюс работает в МИД с 1991 года. Ранее он был советником Посольства Литвы в Польше, заведующим отдела МИД по делам Восточной Европы и Центральной Азии, генеральным консулом в Калининградской области, послом в Германии.

Вице-министром он был дважды — в 2001—2002 и 2009—2012 годах, а также был государственным секретарем, секретарем МИД.

АСОБЫ

## «Ад пасады вызваліць!»

*Ад пасады суддзі суда Фрунзенскага раёна Мінска вызвалена суддзя* ***Вольга Комар****, якая вяла першы судовы працэс па "справе Плошчы".*

Асоба суддзі тады прыцягнула ўвагу не толькі таму, што гэта быў першы суд над удзельнікамі акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў, і не таму, што прыгавор быў жорсткім. Вольга Комар, у дзявоцтве Канойка, аказалася выпускніцай Коласаўскага ліцэя — установы, якая ўсёй сваёй дзейнасцю даказвае, што нацыянальная інтэлігенцыя павінна служыць радзіме, а не рэжымам. І вось адна з выпускніц прадэманстравала засвоеныя ўрокі, асудзіўшы Васіля Парфянкова.

*"Для Васіля Парфянкова кошт яго выбару вызначаны Вольгай Комар — чатыры гады пазбаўлення волі. Але і Вользе, якая таксама зрабіла ў гэтай сітуацыі свой выбар, прыйдзецца спазнаць яго кошт",* — па гарачых слядах працэсу напісаў Уладзімір Колас, дырэктар афіцыйна ліквідаванага Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя.

Вызваленне ад пасады спадарыні Комар афармлена ўказам №24 ад 14 студзеня 2012 года. Прычына — "у сувязі з заканчэннем тэрміну паўнамоцтваў". Так што суддзя сышла не па асабістым жаданні. Усё ж такі дзіўная гэта з'ява — лёс...

**Ігар МАРОЗАЎ.**

СОРАМ!

## У Мінску знялі рэкламныя плакаты ў падтрымку беларускай мовы

"Народная Воля" паведамляла пра тое, што на вуліцах беларускіх гарадоў пачалі з'яўляцца плакаты ў падтрымку беларускай мовы. Цудоўная ініцыятыва! Заказчыкам выступіла Міністэрства культуры... Але ў Мінску плкаты пратрымаліся толькі 10 дзён.




Па даных Асацыяцыі рэкламных арганізацый, 90 плакатаў з першых дзён гэтага года былі размешчаны па ўсёй краіне, у тым ліку ў Мінску. Але ў мінулыя выхадныя нехта невядомы ў сталіцы прыняў рашэнне плакаты зняць. Па крайняй меры, гэта тычыцца плакатаў "МА-МА=МО-ВА". Хаця яны былі зацверджаны Мінгарвыканкамам і павінны былі правісець хаця б паўгода.

У Мінкульце, які выступаў заказчыкам праекта, нічога патлумачыць не могуць.

У Мінгарвыканкаме, які ставіў станоўчыя штампікі з узгадненнем, таксама не могуць сказаць, чаму рэклама знікла. Але нагадаем, хто з'яўляецца галоўным ідэолагам сталіцы і курыруе падобныя праекты. Гэта кіраўнік Камуністычнай партыі Беларусі **Ігар Карпенка**. Ён нарадзіўся не ў Беларусі, а ў Кемераўскай вобласці.

## На 12-м месцы ў свеце

Нават у многіх дзяржавах Афрыкі людзі жывуць даўжэй, чым у Беларусі

Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне (ЦРУ) ЗША апублікавала чарговы штогадовы выпуск "Міжнароднай кнігі фактаў".

Паводле гэтай справаздачы, сярэдняя працягласць жыцця ў Беларусі — 71 год. Пры гэтым мужчыны ў сярэднім жывуць 66 гадоў, а жанчыны — 77. Такім чынам, у нашай краіне на тысячу чалавек насельніцтва штогод прыходзіцца 13,9 выпадкаў смерці. Паводле гэтага паказчыка Беларусь займае 12-е месца ў свеце.

Самая кароткая працягласць жыцця — у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. На другім месцы гэтага прыкрага рэйтынгу — наша суседка Украіна. Расія займае 11-е месца, але не будзем забывацца, што гэта дзяржава, дзе ў паўднёвым рэгіёне ўжо шмат гадоў фактычна ідзе вайна.

У нашых заходніх суседак паказчыкі смяротнасці такія: Польшча — 46-е месца, Літва — 35-е месца.

Дык, можа, дзеля вырашэння дэмаграфічнай праблемы дзяржаве трэба не толькі заклікаць беларусаў нараджаць новых дзяцей, але і сапраўды ратаваць жыцці тых, хто ўжо народжаны?

**Дар'я СОЛТАН.**

## Следчыя разбяруцца, чаму правалілася мадэрнізацыя

Як высвятляецца, звальненне — гэта яшчэ не самы горшы фінал для кіраўнікоў дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў. Былы дырэктар і некаторыя супрацоўнікі "Магілёўдрэва" за правал мадэрнізацыі ўвогуле трапілі пад крымінальную справу.

Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама **Фёдар Балейка**. Гэтыя справы звязаны з перавышэннем і злоўжываннем службовымі паўнамоцтвамі, прамым парушэннем дзеючага заканадаўства і абуральнай безгаспадарчасцю. Як высветлілася, выдзеленыя прадпрыемству ў 2009 годзе на мадэрнізацыю вытворчасці грошы так і не былі выкарыстаны па прызначэнні, а прадпрыемству гэтым нанесены сур'ёзны эканамічны ўрон.

СІТУАЦЫЯ

# Шматдзетным сем'ям ільготнае будаўніцтва не па кішэні?

*На пачатку мінулага года ўлады перагледзелі льготныя ўмовы пры будаўніцтве жылля і скарацілі спісы тых, хто мог будаваць кватэру пры значнай дзяржаўнай падтрымцы. Шматдзетныя сем'і — нямногія з тых, для каго ўмовы прадастаўлення льготных крэдытаў захавалі — на 40 год пад 1 працэнт гадавых. Але, здаецца, улады знайшлі выйсце, як выцягнуць грошы і з гэтай катэгорыі грамадзян. Прэцэдэнт ужо створаны — у Бялынічах Магілёўскай вобласці.*

Расказвае старшыня ЖБК "Дванаццаць", бацька траіх дзяцей **Пётр Шымбалёў**:

— Усё пачалося ўвесну 2012 года. 2 сакавіка нас, бацькоў дванаццаці шматдзетных сем'яў, сабралі ў Бялыніцкім пасялковым савеце і прапанавалі аб'яднацца ў адзін жыллёва-будаўнічы кааператыў. Сказалі, што грошы на будаўніцтва льготнага дома ёсць, праблем з фінансаваннем не будзе і што ўжо ў снежні 2012 года мы заселімся ў новыя кватэры.



**Ці заселяцца шматдзетныя сем'і ў свой кааператыў?**

Кааператыў быў створаны, але ў снежні пачалі толькі расчышчаць месца пад катлаван. Вынікі экспертызы, якая вызначала кошт праекта і была зроблена ў першым паўгоддзі 2012 года, вырашылі перагледзець. Гэтыя кошты і спачатку былі досыць высокія, многія спецыялісты лічылі іх нашмат завышанымі. Напрыклад, першапачаткова агульны каштарысны кошт будаўніцтва быў вызначаны ў памеры 7 мільярдаў 364 мільёнаў 742 тысячы рублёў, адзін квадратны метр агульнай плошчы кватэр, якія, яшчэ раз падкрэсліваю, ільготныя, для шматдзетных сем'яў, складаў 6,7 мільёна рублёў. Пасля паўторнай экспертызы каштарысны кошт будаўніцтва вырас да 9 мільярдаў 229 мільёнаў 776 тысяч рублёў, а квадратны метр падаражэў да 7 мільёнаў 994 тысяч 806 рублёў. 5 студзеня нас сабралі ў зале пасяджэнняў Бялыніцкага райвыканкама і паведамілі, што плаціць мы павінны сыходзячы з апошняга разліку. Але тут высветлілася яшчэ адна цікавая акалічнасць.

Як патлумачылі нам прадстаўнікі банка, 6 лістапада 2012 года Савет міністраў прыняў пастанову "Аб мерах па выкананні заданняў на 2013 год па будаўніцтве жылых дамоў", якое вызначыла максімальную цану квадратнага метра, якая можа крэдытавацца на льготных умовах, — 4,6 мільёна рублёў. Усё, што яе перавышае, грамадзянін павінен аплачваць поўнасцю. Атрымліваецца, што крэдыт на 40 гадоў пад 1 працэнт мы атрымаем толькі на суму, якая будзе разлічана зыходзячы з кошту 4,6 мільёна рублёў за квадратны метр кватэры. Напрыклад, мая сям'я будуе чатырохпакаёвую кватэру агульнай плошчай амаль 100 квадратных метраў. У выніку я павінен звыш той сумы, якую мне пракрэдытуе дзяржава, даплаціць яшчэ 37 тысяч долараў. Дзе іх браць? Прадстаўнік банка выказала меркаванне, што, магчыма, гэтыя сумы нам таксама дадуць у крэдыт. Але яна сумнявалася, што мы знойдзем парусчыцеляў на такія сумы ды і наогул зможам іх выплаціць. І яна мела рацыю.

**— А адкуль такія кошты на квадратны метр жылля ў бюджэтным доме? Вам прапанавалі сучасны, энергазберагаючы дом? Ці, можа, яго будуюць прыватнікі?**

— Гэта ж дзяржаўная праграма, дом будзе будаваць ПМК. Але сітуацыя атрымліваецца сапраўды цікавая. Бялынічы — маленькі гарадскі пасёлак з насельніцтвам менш за 20 тысяч. На другасным рынку жылля трохпакаёвая кватэра з мэбляй сёння каштуе 30 тысяч. А нам прапануюць будавацца амаль за 900 долараў за квадратны метр. Больш за тое, атрымліваецца, што нам, шматдзетным сем'ям, па льготнай праграме трэба даплаціць за будаўніцтва аднаго квадратнага метра большую суму, чым плаціць наогул за квадратны метр у іншым кааператыве ў Бялынічах, які дабудоўвае дом без усялякай дзяржаўнай падтрымкі.

Так, наш дом плануецца будаваць з цэглы з уцяпленнем. Але ў мяне сябар у Мінску ў пасёлку Бараўляны пабудаваў кватэру за 930 долараў за квадрат у цагляным доме з венецыянскай тынкоўкай, аздабленнем. Гэта ж побач з Мінскам, шыкоўнае месца, паркоўка каля дома, шлагбаум. Хіба можна параўноўваць з нашымі Бялынічамі...

**— Што вы вырашылі рабіць?**

— Змагацца за свае правы. Няхай пабудуюць нам дом па кошце 4,6 мільёна рублёў за квадратны метр. Нехта ж у Саўміне гэтыя кошты рэальна разлічваў. Значыць, так будаваць можна.

Пачалі тэлефанаваць на тэлеканал АНТ, у Дзяржкантроль, Адміністрацыю прэзідэнта. Я быў на прыёме ў старшыні райвыканкама Аляксандра Вароніна. Ён тлумачыў, што гэта рэальны кошт квадратнага метра, што дом нашага кааператыва маленькі, на 12 кватэр, а гэта кошт павялічвае. Але ж не мы прасілі ствараць такі кааператыў, нам мясцовыя ўлады самі гэта прапанавалі. Я стаяў на сваім: будуйце дом па саўмінаўскіх разліках. Мы просім тое, што нам гарантавана дзяржавай. Некаторыя члены нашага кааператыва туляцца шасцёра ў аднапакаёвай кватэры, некаторыя ў вёсцы жывуць, ім складана дабірацца на працу, у школу. Варонін абяцаў паслаць запыт у аблвыканкам, сказаў, што ўзяў пад кантроль гэтае пытанне.

16 студзеня мне патэлефанаваў намеснік старшыні райвыканкама Андрэй Ерашэнка і сказаў, што 15 студзеня ў Бялынічах вёў прыём грамадзян дэпутат Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Валерый Іваноў і мясцовыя кіраўнікі распавялі яму пра нашу сітуацыю. Іваноў адразу звязаўся з віцэ-прэм'ерам Анатоліем Калініным, які курыруе ў Беларусі пытанне будаўніцтва жылля, і Калінін нібыта даручыў, каб нам выдалі крэдыты ў поўным аб'ёме, зыходзячы з кошту за квадратны метр не 4,6 мільёна, а 7,9. Ерашэнка сказаў: маўляў, паведаміце пра гэта сябрам кааператыва і ідзіце ў банк за крэдытам. Дадуць вам пакуль пад 4 мільёны 600, а потым будзем вырашаць... Але гэта на словах. Мала што можа змяніцца! Мы на такія ўмовы не пагадзіліся, баімся трапіць у грашовую пастку. Вось калі ў нас будзе на руках афіцыйная папера, тады мы і пойдзем за крэдытам. Таксама мы настойваем на тым, каб зрабіць таннейшым кошт нашага дома. Калі ёсць разлікі Саўміна, значыць, можна будаваць дом па такіх коштах!

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

***P.S.*** "Народная Воля" будзе сачыць за тым, як вырашыцца гэтая сітуацыя ў Бялынічах. Бо сапраўды атрымліваецца неяк непрыгожа: на дзяржаўным узроўні дэкларуецца дапамога шматдзетным сем'ям пры будаўніцтве жылля, а на справе гэтая падтрымка блакіруецца пастановай урада.

РЭГІЁНЫ

## *Полацкім друкарам абяцаюць 1100 долараў заробку*

*Фантастычна аптымістычныя прагнозы агучыў дырэктар полацкага рэспубліканскага ўнітарнага паліграфічнага прадпрыемства "Спадчына Ф.Скарыны" Мікалай Ілюшэнка. Праўда, казка мусіць стаць быллю не раней за 2015 год...*

За 95 гадоў існавання полацкага прадпрыемства яго рабочыя ўпершыню ўдастоіліся такога гонару — уявіць, што праз некалькі гадоў іх заробкі падвысяцца да імаверных памераў. Дырэктар упэўнены: так і будзе! Неабходнае абсталяванне закупілі, новую лінію запусцілі і нават выйгралі тэндар на вытворчасць сувеніраў да чэмпіянату свету па хакеі 2014 года.

Варта адзначыць, што пакуль полацкія прадпрыемствы не могуць ганарыцца заробкамі нават удвая меншымі, чым абяцае спадар Ілюшэнка. Напрыклад, "Народная Воля" ўпэўнілася, што повара ў дзіцячы садок шукаюць на аклад у 1 мільён 500 тысяч рублёў. Паштальёну згодны плаціць 1 мільён 400 тысяч. Лепшыя заробкі ў муляраў — каля 3,5 мільёна. Заробак галоўнага інжынера дасягае 4 мільёнаў.

А вось калі прагнозы дырэктара "Спадчыны Скарыны" спраўдзяцца, ад жадаючых працаваць на прадпрыемстве адбою не будзе.

## *Выхаваем, як родных...*

*Учора ў Мазыры адкрыўся новы дзіцячы дом сямейнага тыпу. Гаспадарамі ў ім будуць Васіль і Ірына Дзенісенкі і 8 дзетак. Прафесійныя тата і мама выхоўваюць малых, што сталі сацыяльнымі сіротамі.*

Падаецца, радасная навіна: новы дом атрымалі людзі, што выхоўваюць трое сваіх і пяць прыёмных дзяцей. На ўпарадкаванне дома пайшло 2,3 мільярда рублёў з бюджэту. Між тым пяць прыёмных малых, якіх выхоўваюць тата Васіль і мама Іра, маюць родных бацькоў. Чаму распалася сям'я, чаму дзіця выхоўваюць няхай і любячыя, але чужыя людзі? Найчасцей бацькоўскіх правоў пазбаўляюць з-за п'янства, гэта не сакрэт. І ў Мазыры становішча не лепшае, чым па ўсёй краіне. Згодна са статыстыкай, да адміністрацыйнай адказнасці ў 2012 годзе прыцягнуты 6382 чалавекі. Прычым 4950 з іх — за ўжыванне спіртных напояў. За п'янку на працоўным месцы прыцягнуты да адказнасці 90 грамадзян...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ПАНТЭОН ГЕРОЯЎ

*Уладзімір АРЛОЎ:*

# «Лісты з-пад шыбеніцы» Каліноўскага не страцілі сваёй актуальнасці і ў нашым стагоддзі»

*2013 год абвешчаны дэмакратычнай супольнасцю Беларусі Годам Кастуся Каліноўскага. Кім з'яўляецца Каліноўскі для беларусаў? І ці ўсе памятаюць яго нае імя?*

*Пра гэта мы паразмаўлялі з вядомым беларускім пісьменнікам Уладзімірам Арловым.*



**— На вашу думку, ці можна паставіць Кастуся Каліноўскага на першае месца ў Пантэоне герояў Беларусі?**

— У нацыянальным пантэоне не павінна быць п'едэсталаў з прызавымі прыступкамі, як на спартыўных спаборніцтвах. Бясспрэчна, ёсць крытэрыі, паводле якіх мы далучаем або не далучаем асобу да герояў менавіта нашай гісторыі, але я не ўяўляю, якім чынам могуць вызначацца канкрэтныя месцы.

Дарэчы, калі казаць пра нараджэнне беларускай нацыі, я сам бачу Каліноўскага побач з ідэйнымі бацькамі нашага нацыянальнага руху пачатку XX стагоддзя Іванам і Антонам Луцкевічамі, з "неадменным сакратаром Адраджэння" Вацлавам Ластоўскім...

**— Род Каліноўскіх паходзіць з Польшчы. Дык чый ён на самай справе герой — польскі ці беларускі?**

— Род Каліноўскіх герба "Калінова", да якога належаць продкі правадыра нашага нацыянальна-вызвольнага паўстання, на маю думку, беларускі не ў меншай, а значна ў большай ступені, чым польскі. Любы дасведчаны ў геральдыцы і генеалогіі чалавек скажа вам, што гэты род быў вельмі разгалінаваны і ягоныя прадстаўнікі, калі казаць пра XIX стагоддзе, знаходзіліся ў спісах шляхты Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Менскай, Магілёўскай, Ковенскай, Валынскай і Падольскай губерняў, а таксама Каралеўства Польскага. Сям'я К.Каліноўскага жыла на беларускай Беласточчыне, на землях, якія ў мінулым належалі да Вялікага Княства Літоўскага. На свет Кастусь з'явіўся ў вёсцы Мастаўляны Гарадзенскага павета, якая ў выніку шматлікіх "удакладненняў мяжы БССР" толькі ў сярэдзіне XX стагоддзя апынулася ў складзе Польшчы. Мне здаецца, што зроблена гэта было невыпадкова.

Калі я ў 1970-я быў студэнтам гістарычнага факультэта БДУ, наш змрочнай памяці прафесар Лаўрэнцій Абэцэдарскі называў Каліноўскага *"полячком, который заигрывал с белорусскими мужиками"*. Спробы рэанімаваць такую ацэнку робяцца і цяпер. Найлепшы адказ гэтым "адмыслоўцам" — "Лісты з-пад шыбеніцы", своеасаблівы запавет Каліноўскага. Яны звернуты да беларусаў. Яны напісаны па-беларуску. Яны прысвечаны будучыні Беларусі. Яны не страцілі сваёй актуальнасці і ў нашым стагоддзі.

**— Не так даўно Аляксандр Мілінкевіч выказаў такую думку: *"Каліноўскі, без сумневу, выбітная асоба ў нашай гісторыі. І асаблівую моц гэты чалавек набірае сёння, калі мы, як гэта адбывалася і ў ягоныя часы, змагаемся за свабоду і за незалежнасць — і тое, і тое пад пагрозай"*. Ці падзяляеце вы думку Мілінкевіча? Ці сапраўды часы цяперашнія і Каліноўскага так моцна падобныя?**

— У адрозненне ад часоў паўстання цяпер мы маем сваю дзяржаву. Але яе будучыня сапраўды пад пагрозай. Асоба Каліноўскага натхняе прыхільнікаў незалежнасці і палохае яе ворагаў — усіх гэтых "еўраазіятаў". 150-годдзе паўстання і 175-годдзе з нараджэння ягонага правадыра змушаюць зноў задумацца над тым, чаму ў Мінску няма помніка нашаму нацыянальнаму герою, затое ў школьных падручніках можна прачытаць ухвальныя словы пра ката паўстанцаў Мураўёва-вешальніка.

**— Як думаеце, для маладых беларусаў імя Каліноўскага сёння многа значыць?**

— Наша моладзь, як і ўсё грамадства, — гэта шматслойны пірог, дзе можна сустрэць і людзей, што апярэджваюць свой час, і пітэкантрапаў. У кожнага свае прыярытэты.

Калісьці на старонках "Народнай Волі" я пісаў пра адначасовае існаванне дзвюх Беларусяў — у кожнай свая мова, свае сімвалы і ідэалы, свае ўяўленні пра мінулае і мары пра будучыню. Але гістарычную перспектыву для дзяржавы захоўвае якраз тая Беларусь, для якой Каліноўскі — нацыянальны герой. Мы бачылі гэтую Беларусь на Плошчы ў 2010-м і 2006-м. Памятаеце, як шэсць гадоў таму, на мітынгу каля наметавага мястэчка, у дзень, калі лідара паўстанцаў 1863-га пакаралі смерцю, Кастрычніцкая плошча была перайменавана ў плошчу Каліноўскага? Тысячы рук, што падтрымалі тады гэтую прапанову, належалі якраз маладым беларусам.

**— Ведаю, што вы глыбока вывучалі паходжанне імя Каліноўскага і правялі ў архівах нямала часу… Дык як на самай справе яго завуць: Вікенцій, Кастусь альбо Канстанцін?**

— Грунтоўны адказ на гэтае пытанне вы знойдзеце ў маёй выдадзенай некалькі месяцаў таму кнізе "Пакуль ляціць страла" ў эсэ "Кастусь або Вікенці?". Так, у Каліноўскага, паводле даўняй традыцыі, што існавала ў шляхецкіх сем'ях, было два імя. Але пераканацца ў тым, як называў сябе сам наш герой, вы зможаце, узяўшы ў рукі том дакументаў і матэрыялаў "Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг." (М., 1965) і разгарнуўшы яго на старонках 82, 84—88, 159, 160, 167, 271—272 і г.д. Там паўсюль фігуруе Каліноўскі Канстанцін.

Што да імя Кастусь, то бацькі, сваякі і бліжэйшыя сябры, мяркую, маглі называць Каліноўскага менавіта так. Ну, хіба што з нейкімі мадыфікацыямі. Ці, можа, нехта думае, што "Марыська чарнаброва", нарачоная паўстанцкага важака Марыя Ямант, клікала яго Вікенціем Канстанцінам?

Карыстаючыся момантам, хачу нагадаць пра не толькі прыкрую, але, я сказаў бы, зняважальную для нацыянальнай годнасці памылку. Ужо некалькі дзесяцігоддзяў мемарыяльная пліта, усталяваная на тым месцы ў Вільні, дзе камандзір нашых інсургентаў зрабіў апошні зямны крок, паведамляе, што Канстанцін Каліноўскі нарадзіўся ў 1836 годзе, робячы яго старэйшым на цэлыя два гады. Такія "дробязі" беларускую амбасаду, відавочна, не хвалююць. Трэба нарэшце сказаць сваё слова Таварыству беларускай культуры ў Літве.

**— Не так даўно на Радыё Рацыя ў эфір выйшла інтэрв'ю з даследчыкам падзей 1863—1864 гадоў Віктарам Хурсікам. Ён гаворыць: *"Каліноўскі быў сацыял-дэмакратам. У яго не было нацыянальнай ідэі. Дарэмна, што зараз яго імкнуцца прадставіць нацыянальным героем Беларусі. Ён быў такім жа героем, як і рэвалюцыянеры 1917 года"*. Вы згодны з такім меркаваннем?**

— Абсалютна не згодны і мог бы пункт за пунктам разбіць згаданыя сцвярджэнні. Аднак гэта ўжо бліскуча зрабіў у апошнім нумары "Нашай Нівы" доктар гісторыі Алесь Смалянчук, якога я лічу, калі казаць пра сучаснікаў, адным з найбольш глыбокіх даследчыкаў гісторыі паўстання 1863—1864 гадоў.

**— На апошняй прэс-канферэнцыі А.Лукашэнку запыталі пра супольныя мерапрыемствы з Польшчай да 150-годдзя паўстання Каліноўскага? *"Я пра такія мерапрыемствы не ведаю. Калі будзе такое жаданне, то чаму б і не…"* На вашу думку, ці павінны такія гучныя гістарычныя даты адзначацца ў Беларусі на больш высокім ўзроўні, з шырокім прыцягненнем увагі грамадскасці?**

— Я перакананы, што прыйдзе час, калі такія даты будуць у нашым дзяржаўным календары.

**Марына КОКТЫШ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Калі стадыён на 40 тысяч гледачоў — танцуйце ад 120 мільёнаў еўра...

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пацікавіўся, ці пачалася рэканструкцыя стадыёна "Дынама".*

Як вядома, яшчэ летам 2011 года Мінгарвыканкам заняўся правядзеннем міжнароднага конкурсу па выбары арганізацыі для рэканструкцыі "Дынама" "пад ключ" з прыцягненнем крэдыту замежнага банка. У выніку перамагла венгерская кампанія, якая прапанавала выканаць работы за 28 месяцаў пры кошце ў 144,8 млн еўра. Аднак справа скончылася тым, што працэс затармазіўся, венгерская кампанія адышла "ў бок".

У лістападзе мінулага года Аляксандр Лукашэнка паставіў задачу неадкладна пачаць рэканструкцыю "Дынама" і закончыць яе за два гады.

— Мы не патрабуем там ствараць суперстадыён, як яго стваралі ў Лондане, ці як "Птушынае гняздо", якое Тозік курыраваў у Кітаі, — заявіў кіраўнік краіны на спецыяльнай нарадзе. — Нам не патрэбны такі стадыён. Нам патрэбны кампактны, еўрапейскага ўзроўню стадыён, прыкладна на 40—45 тысяч гледачоў, і распальцоўкай займацца там не трэба. Мы не настолькі багатыя, каб нешта там з шыкам будаваць. Павінен быць функцыянальны, прыгожы стадыён з захаваннем таго гістарычнага аблічча, аб якім мы дамаўляліся.

Ужо 1 снежня "шырокая грамадскасць" выйшла на суботнік, каб разабраць некалькі крэслаў на трыбуне. А што робіцца на стадыёне сёння?

...Цэнтральныя вароты зачынены, а прадпрымальнікі, якім пакуль яшчэ дазваляюць гандляваць, працуюць толькі на ніжнім узроўні. Не бачна, каб на трыбунах вяліся нейкія работы.

— Не ведаем, да якога часу будзем тут знаходзіцца, — прызнаецца гандляр. — Няма ніякай вызначанасці. Ды і пакупнікоў, шчыра кажучы, няма. Вось бачыце, што я напісаў на сваім тавары (*над майкамі стаіць шыльда — "Халява".* — **Аўт.**). Усё роўна не купляюць...

Дырэктар стадыёна "Дынама" **Юрый КРЫВАДУБСКІ** распавядае мне, што зараз ідзе падрыхтоўка да рэканструкцыі:

— Разабралі крэслы на "брылі". Як толькі будаўнічая арганізацыя атрымае дазвол на правядзенне работ, будуць разбіраць і сам "брыль". Гэта зойме прыкладна тры месяцы. Затым на чарзе — дэмантаж асвятляльных мачтаў, якія, наколькі мне вядома, у свой час збіралі пры дапамозе верталётаў. Але зараз такія мачты на сучасных стадыёнах ужо амаль ніхто не ставіць. Асвятляльныя лямпы ўсталёўваюць вакол усяго спартыўнага аб'екта па перыметры даху.

**— У снежні павінен быў закончыцца конкурс на лепшы дызайн-праект рэканструкцыі…**

— Наколькі мне вядома, у запланаваныя тэрміны не ўклаліся, бо спатрэбіўся час на ўдакладненні. Але кола прэтэндэнтаў звузілася, і, думаю, у бліжэйшы час будзе абвешчаны пераможца. Адметна, што ў конкурсе ўдзельнічала шмат калектываў. І не толькі з Беларусі.



**— Ці вядома, у які кошт абыдзецца рэканструкцыя новага стадыёна?**

— Калі зыходзіць з міжнародных стандартаў, то адно месца на трыбуне каштуе прыкладна 3 тысячы еўра. Вось і лічыце самі. Напрыклад, стадыён на 40 тысяч гледачоў — "танцуйце" ад 120 мільёнаў. Але ж тут вельмі шмат розных момантаў. Трэба ўлічваць, якімі будуць дах, аздабленне, матэрыялы... Да таго ж неабходна захаваць гістарычную частку стадыёна — гэта таксама дадатковыя затраты. Калі палякі рыхтаваліся да чэмпіянату Еўропы па футболе, яны будавалі стадыёны за больш як 200 мільёнаў еўра. Але, натуральна, у нас усё будзе куды больш эканомна.

**— Ці рэальна за два гады правесці якасную рэканструкцыю?**

— Шчыра скажу, складана. Практыка паказвае, што для гэтага неабходны большы тэрмін. Але я ж не будаўнік — такія прагнозы рабіць не магу. Да таго ж, паўтаруся, пакуль яшчэ няма і дызайн-праекта...

**Алесь СІВЫ.**

МЫ ПІСАЛІ...

## *Каманда «Стоп!»*

*Менавіта з артыкула ў "Народнай Волі" "Танцы ў Курапатах" пачалася грамадская кампанія па абароне месца масавых расстрэлаў ад будаўніцтва тут забаўляльнага комплексу.*

І вось ёсць першыя вынікі. Будаўніцтва "Бульбашъ-хола" спынена.

Такі адказ дала Землеўпарадкавальная служба Мінаблвыканкама на запыт грамадскай актывісткі Ганны Шапуцькі наконт парушэння ахоўнай зоны Курапатаў.

Праўда, у адказе вядзецца гаворка пра "чатыры жылыя дамы ў ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці" — гэта так званыя домікі для прыватных мерапрыемстваў. Але ёсць і галоўны будынак аграмаднага рэстарана. Пра яго гаворыцца толькі ўскосна — што будзе дадаткова "ўстанаўлівацца зона рэгуляванай забудовы".

Акрамя таго, пытаннем занялася Генпракуратура і ўнесла прадстаўленне на адрас Мінаблвыканкама "Аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай каштоўнасці, прычын і ўмоў, якія ім спрыяюць".

Дарэчы, хваля абурэння грамадства, якая ўзнікла пасля таго, як стала вядома, што побач з месцам масавых расстрэлаў павінен з'явіцца рэстаранны комплекс "Бульбашъ-хол", прымусіла забудоўшчыкаў амаль адразу адмовіцца ад выбранай назвы. Многія звярнулі ўвагу, што немагчыма нават уявіць, каб "Хахол-хол" з'явіўся ва Украіне, альбо "Пшэк-хол" у Польшчы. Больш за тое, у Камітэт па правах чалавека ААН пададзена заява аб прызнанні слова "бульбаш" абразлівым у адносінах да беларусаў. І рашэнне пакуль не вынесена, заява чакае сваёй чаргі для разгляду...

СІТУАЦЫЯ

## *Самага злоснага даўжніка Мінска не могуць выселіць з кватэры*

*І сума пратэрмінаванай запазычанасці за жыллёва-камунальныя паслугі ў самага злоснага неплацельшчыка са сталічнай вуліцы Чарвякова працягвае расці.*

57-гадовы наймальнік аднапакаёўкі не плаціць за "камуналку" на працягу некалькіх гадоў. Як паведамляе разлікова-даведачны цэнтр №1 Цэнтральнага раёна, па стане на 1 студзеня бягучага года сума запазычанасці ўжо перасягнула за 66 мільёнаў рублёў. Аднак гэтаму "рэкардсмену" не могуць нават адключыць святло ці ваду, не кажучы ўжо аб перасяленні ў менш камфортнае жыллё. Прычына ў тым, што ў кватэры зарэгістраваны 7 чалавек, у тым ліку непаўналетнія.

Двое з іх жывуць у "SOS" — Дзіцячай вёсцы ў Бараўлянах: іх маці пазбаўлена бацькоўскіх правоў, а дзеці хоць і выбылі і выпісаліся з кватэры, але плошча ў ёй застаецца замацаванай за імі. Яшчэ трое дзяцей з бацькамі перабраліся ў здымную кватэру. Гэта значыць, што непаўналетнія ўнукі кватэраздымшчыка-даўжніка фактычна з ім не пражываюць, але юрыдычна зарэгістраваны менавіта ў кватэры дзеда. Гэтая акалічнасць, згодна з дзеючым заканадаўствам, служыць абярэгам ад прыняцця да яго якіх-небудзь радыкальных мер па спагнанні запазычанасці. У выніку самы злосны неплацельшчык Мінска проста ігнаруе любыя папярэджанні, а таксама прапановы ўладкавацца на працу ў ЖЭС і пачаць пагашаць доўг.

КОНТРАКТ

## *Где тонко — там и рвется*

*Белорусская калийная компания заключила контракт на поставку белорусских удобрений в Китай. Как мы и предполагали, цены рухнули.*

Цена за тонну хлоркалия составит 400 долларов вместо прежних 470. Срок действия контракта — с 15 января по 30 июня 2013 года, а что будет во втором полугодии — еще не понятно.

Напомним, что доходы от экспорта калийных удобрений занимают второе место по поступлениям валюты в белорусский бюджет. В нынешнем году валюта стране особенно нужна, но случился непредвиденный обвал цен, который, по прогнозам экспертов, распространится не только на Китай, но и на все рынки. Вот уж действительно, где тонко — там и рвется...

ЛІСТ З-ЗА КРАТАЎ

# Крумкачы



— Я ўсякае бачыў і думаў, што нішто мяне ўжо не здзівіць у гэтай сістэме. Але ніколі не кажы "ніколі", бо такога неадэкватства я яшчэ не сустракаў, — тлумачыў я старшаму лейтэнанту, прадстаўніку Дэпартамента выканання пакаранняў, каторы прыехаў праводзіць праверку па заявах у маю абарону ад Настачкі, якая змагаецца за мяне 2 гады (ды якія там два!), спадарыні Марыны, якая змагаецца за Міколу Статкевіча, і пастара маёй царквы, Антося Бокуна.

І пачалося ўсё ў першы ж дзень майго прыезду ў Мазыр, па першым жа выкліку да начальства. Як толькі начальнік калоніі пачуў, што я пратэстант, яго ажно перасмыкнула:

— Што, баптыст?! А я ж думаў, мазгі якія ёсць, а ты проста баптыст — ізгой, здраднік праваслаўю, бацькам, веры дзядоў! Цяпёр усё зразумела!

— Чаму гэта я здрадзіў? — нягледзячы на такую са старту агрэсію, спакойна запытаўся я.

— А таму, што секты вашыя насаджаюцца Захадам, каб супрацьстаяць сапраўднай веры — праваслаўю! — выбухнуў начальнік, чаргуючы ці не кожнае слова з адборнейшай зэкаўскай мацяршчынай. — Я таксама веруючы, вось, — і палкоўнік ляснуў сябе па медалях, — праваслаўны ордэн за веру атрымаў — пабудавалі мы царкву ў зоне, асвячаць якую сам Мітрапаліт Філарэт прыязджаў. А вас, сектантаў, я ніколі на парог не пускаў, хаця і ходзяць тут да мяне некаторыя з Бібліямі, у зону просяцца. Не пройдзе ніхто, пакуль я тут, я не дазволю заразе гэтай у зоне распаўсюджвацца!

— Я не жадаю даказваць Вам, што я нейкі там "сапраўдны", але што датычна пратэстантаў, дык Салжаніцын, каторы не адзін лагер прайшоў, бачыў многае і многіх, у тым ліку і веруючых, так і піша ў "Архіпелагу": "Калі і былі ў лагеры праведныя людзі, дык гэта толькі баптысты, і нам, праваслаўным, трэба браць у іх прыклад веры.

— Я такога не чытаў, — махнуў рукою зонаўскі камандзір.

— Дык пачытайце, — працягваў я спакойна.

— Мне не трэба! — гаркнуў у адказ. — Салжаніцын праваслаўю не здраджваў, не прадаваў дзядоў сваіх.

— Я таксама не прадаваў нікога, я проста веру ў Ісуса Хрыста, — не адступаўся і я, але мяне абаронца "сапраўднае веры" ўжо не слухаў і звярнуўся да галоўнага аператыўніка, каторы прысутнічаў тут жа: "Ты ведаеш, Іваныч, у свеце 1100 гэтых сектаў. На нашую зямлю панаехалі яны, каб разбураць славянскую расу...

— Пры чым жа тут расы? — запытаў я.

— З табою ніхто не размаўляе. Я вось з Іванычам гутару, а ты слухай і матай на вус, — дэманструючы сваю пагарду, выціснуў начальнік. — Дык во, Іваныч, 1100 сектаў, якія распаўсюджваюцца тут ворагамі славянскай еднасці, каб расу нашую разбураць, каб разбэшчваць нашу моладзь хапунамі сваімі. Ведаеш, як яны збіраюцца на ха...

— Вы бачылі "хапуны" тыя?! — рэзка перапыніў я, бо гэтую шызу пра оргіі ў хрысціянскіх храмах слухаць не мог. І, па наіўнасці сваёй, быў перакананы, што гэтым пытаннем заганю радзецеля славянскае расы ў кут. Але што, вы думаеце, ён мне адказаў? — запытаўся я ў правяраючага, які мяне ўважліва слухаў.

— Што? — перапытаў ён.

— Што бачыў! Вы можаце сабе ўявіць такое? Бачыў ён! Дык мо няхай бы пракуратура правяла праверку па гэтых заявах. Калі начальнік калоніі бачыў масавыя сексуальныя вычварэнні ды яшчэ ў царкве, дык дзе гэта было, калі?

— Мы не маем такой кампетэнцыі.

— Канешне, я ведаю, што не маеце. Ды і пытанне гэтае рытарычнае, наўрад ці начальнік мог нешта бачыць, бо каб бачыў, дык даўно заявіў бы ў адпаведныя органы. Вырыгае проста бясоўскія блюзнерствы, ды мо думае яшчэ, што гэтым Богу служыць.

— А што было пасля гэтай сустрэчы?

— У прынцыпе, у заявах, — і я паказаў на паперы, што ляжалі на стале, побач з маім экзаменатарам, — усё сказана. Я пацвярджаю праўдзівасць дадзенай інфармацыі. Які тут сэнс паўтараць усе тыя абразы: "Алкаш двойчы кадзіраваны! Гамасек! Даўн!" і г.д. і г.д.? Я хіба толькі яшчэ раз зазначу, што такога дзікунства не сустракаў нават сярод тых зэкаў, каторыя маглі і сядзець па гадоў 20—30 і адукацыі мець пару класаў. А тут: маёры, падпалкоўнікі і палкоўнікі — перадгенеральскія чыны! — эліта міліцыі, пасля ўнівераў і акадэміяў — ды каб такое!

— Вы ж павінны разумець, — з сумнаю ўсмешкаю адказаў малады старлей, каторы і сам, відаць, толькі Акадэмію МУС скончыў, — людзі працуюць тут доўгімі гадамі і прасякаюцца гэтай субкультурай.

Тлумачэнне такое, трэба прызнацца, уразіла мяне.

— Я разумею, не першы год катаюся, — прамовіў я з гэткай жа сумнай усмешкай і падумаў: "А што, гэты мо і сапраўды дабярэцца да праўды?"

* * *

*"Па выніках праведзенай праверкі з выездам у ПК-20 высветлена, што довады, змешчаныя ў зваротах аб перадузятым стаўленні да асуджанага Дашкевіча Д.В. з боку супрацоўнікаў ПК-20 на рэлігійнай падставе, якія выявіліся ў абразах і пагрозах апошняму, неабгрунтаваным прыцягненні да дысцыплінарнай адказнасці і стварэнні невыносных умоў адбыцця пакарання, свайго пацвярджэння не знайшлі. /.../ Довады... маюць аднабаковы абвінаваўчы ўхіл, заснаваны толькі на заявах асуджанага..."* — паведаміў мне адказ з Упраўлення ДВП МУС РБ па Гомельскай вобласці.

* * *

Не, здзівіўся я не гэтаму адказу. Бо што такое праверка па-беларуску, хай сабе тое праверка ў зоне, калгасе ці міністэрстве? Гэта прафанацыя. Папепрапсаванне. Вынішчэнне лясоў.

Дазволю сабе патлумачыць падрабязней, як "праводзяцца" праверкі з гэтага боку нашай агульнай зоны. А праводзяцца вельмі проста, па наступнай тэхніцы:

— Ход №1: зэк піша заяву.

— Ход №2: адміністрацыя дадае да заявы г.зв. "суправадзілаўку", у якой тлумачыцца: зэк брэша.

— Ход №3: дэпартамент бярэ дадзеную "суправадзілаўку", называе яе праверкай і адказвае зэку што-небудзь накшталт: *довады маюць аднабаковы абвінаваўчы ўхіл і свайго пацвярджэння не знайшлі і г.д.*

З такой тэхнікай я сустракаюся заўжды, калі імкнуся пашукаць справядлівасці з гэтага боку. Пішу я, да прыкладу, з жодзінскай турмы пра тое, што мне забараняюць размаўляць на пакуль што дзяржаўнай, роднай мове (ход №1), адміністрацыя тлумачыць у "суправадзілаўцы", што гэта брахня і нават дадае паказанні нейкіх сукамернікаў маіх (ход №2), дэпартамент адказвае мне: праведзена праверка і далей па тэксце (ход №3). Я, праўда, сустракаю потым на этапах і зонах сукамернікаў гэтых, і яны сведчаць: "Так, выклікаў опер, браў тлумачэнні, я пацвердзіў, што забаранялі табе па-беларуску". Але каго гэта цікавіць? Каму гэта дакажаш, калі словы супрацоўніка турмы/зоны — ісціна ў апошняй інстанцыі, якая не падлягае пераправерцы і крытычнаму аналізу? Крумкач крумкачу вока не выдзяўбе.

Але бываюць асечкі нават у такой гадамі адшліфаванай тэхніцы. Я адну такую зафіксаваў. Справа разгортвалася так. Вясна 2010-га, я сяджу на Валадарцы і заўважаю па нумарацыі лістоў, якія атрымліваю (сам я нумарую ўсе лісты, што дасылаю, і многія, хто мне дасылае, таксама нумаруюць свае), што каля 15—20 пасланняў да мяне не дайшлі. Я, ясная справа, раблю ход №1 — пішу заяву спачатку начальніку Валадаркі, а потым, не дамогшыся нічога, у дэпартамент. Адміністрацыя турмы робіць ход №2. Дэпартамент робіць ход №3. Вынік заўсёдны: я, па-першае, дурань, а па-другое, хлус.

І тут, вясной 2011-га, я сяджу ў ізалятары Глыбоцкай калоніі, выклікае мяне аператыўнік і ўручае пакунак са Следчага камітэта. У пакунку ж — тыя 22 лісты, якія не дайшлі да мяне на Валадарку год таму. "У чым прыкол?" — запытваю я. Опер тлумачыць мне, што Следчы камітэт знайшоў гэтыя лісты падчасператрусу ў А.Б., з каторым я паўмесяца сядзеў у адной камеры ў мінскай турме. Спачатку я слаба разумею, што да чаго, але потым складаю наступную карціну: мяне пераводзяць з адной камеры ў іншую, жанчына на пасадзе "выхавацельніцы" (нешта накшталт паштальёна) працаваць не любіць, прыносіць пошту маю ў старую камеру і проста кідае яе ў кармушку, адзін з арыштантаў захоўвае лісты і мо спадзяецца перадаць іх мне як-небудзь, пасля ж умудраецца нейкім чынам вызваліцца і захоўвае карэспандэнцыю маю дома, але на небараку ўзбуджаюць іншую крыміналку, прыходзяць зператрусам, знаходзяць гаротныя лісты мае і высылаюць іх мне ў Глыбокае.

Самае ж паказальнае ва ўсім гэтым аповедзе што? Тое, безумоўна, што дэпартаментам "была праведзена праверка", было "дакладна ўстаноўлена", што ўсю пошту я атрымаў. Вось за такую працу папепрапсавальнікі атрымліваюць грошы айчынных падаткаплацельшчыкаў!

Канешне, па выхадзе з ізалятара я напісаў скаргу ў пракуратуру з патрабаваннем разабрацца і, у рэшце рэшт, выратаваць лясы беларускія, якія пераводзяцца на макулатуру — на пустыя адпіскі. Аднак адміністрацыя Глыбоцкай калоніі палічыла, што дрэў зашмат расце на прасторах нашае Бацькаўшчыны, і заяву маю не выпусцілі. Крумкач крумкачу...

* * *

Не, здзівіўся я не гэтаму адказу. Ісціну ў нашай зоне прамаўляе той, хто робіць ход №3, а я маю права толькі на №1. Я здзівіўся іншаму. Найперш, гэткай трусасці эліты сілавых структур Беларусі. Калі я для вас вораг народа, ізгой, сектант, разбуральнік славянскай расы і здраднік „сапраўднай веры", дык заявіце гэта адкрыта і напішыце гэта ў сваіх "суправадзілаўках"! Адкуль страх гэты, калі апроч павелічэння прэміяльных, новых зорачак і ордэнаў, вам нічога не пагражае? Не, яны баяцца. І прычынай таму тое, што крумкачы толькі ў зграі могуць кідацца, шалець, адзін перад адным спаборнічаць у абразах, аплёўванні, здзеку. А як толькі з'яўляецца нехта смелы і кажа: "Кыш!", крумкачы спужана разлятаюцца, бо крумкач — птушка хоць і драпежная, але ж надта труслівая.

І што самае жахлівае, я ніяк не магу даць рады, як гэта спадзяецца нехта, што такія труслівыя ваякі будуць бараніць „стабільнасць" у выпадку не дай Бог (чытаць: дай Бог!) чаго. Гэта тыя, каторыя лягуць касцьмі за тройчы змененую Канстытуцыю і Гаранта гэтых змен? Зараз я вам прадказваю, як будуць разгортвацца падзеі: выходзяць шукаючыя праўду (не ведаю шмат іх ці няшмат, але, відавочна, што ўсе людзі смелыя), грукаюць нагою па бетонным бруку і прамаўляюць кодавае слова „Кыш!" — і крумкачы спужана разлятаюцца, бо крумкач — птушка хоць і драпежная, але ж надта труслівая.

**Зміцер ДАШКЕВІЧ.**

***Гродна, турма №1.***

### ДА ВЕДАМА

31-гадовы Зміцер Дашкевіч з'яўляецца адным з найбольш яркіх маладзёжных лідараў. Узначальвае незарэгістраваную арганізацыю "Малады фронт". Актыўны ўдзельнік і арганізатар шматлікіх масавых акцый і мерапрыемстваў дэмакратычных сіл Беларусі. Менавіта з-за гэтага напярэдадні важных палітычных падзей улады заўсёды спрабавалі затрымаць Зміцера превентыўна і асудзіць да адміністрацыйнага арышту.

Але 18 снежня 2010 года, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, падзеі разгорталіся ўжо больш сур'ёзна. Паводле інфармацыі ГУУС Мінгарвыканкама, у двары жылога дома па вуліцы Янкі Брыля Дашкевіч разам са сваім таварышам Эдуардам Лобавым нібыта без дай прычыны збівалі нейкіх грамадзян Канстанціна Савіцкага і Алега Малышава. Гэтыя грамадзяне на судзе нават не паказалі твараў, не назвалі ні свайго сапраўднага месца жыхарства, ні месца працы. Паводзілі сябе настолькі цынічна, што часам не мог трываць нават суддзя. Але 24 сакавіка 2011 года Зміцер быў асуджаны на 2 гады зняволення ў калоніі агульнага рэжыму. У канцы 2012 года ён ужо павінен быў выйсці на волю, але супраць яго "скляпалі" новую справу. 28 жніўня 2012 года, прама ў Глыбоцкай калоніі, ён быў асуджаны зноў — за "злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі калоніі". Суд, які адбыўся ў закрытым рэжыме, дадаў да тэрміну Зміцера Дашкевіча яшчэ адзін год. Зараз ён знаходзіцца ў Гродзенскай турме.

ОТКРОВЕННО

## *Василий КИРИЕНКО: «Там, где отката нет, у нас не работают»*

Велосипедист Василий Кириенко, ставший бронзовым призером чемпионата мира, в интервью газете "Прессбол" сделал заявление, которое просто обязано стать основой для возбуждения уголовного дела. Но, скорее всего, его постараются не заметить.

— У нас могут SRM (велосипедный компьютер) купить за 8 тысяч евро, которому красная цена две с половиной — три. Вот и причина. Там, где отката нет, у нас не работают. Вот куда деньги деваются. В Беларуси все могло бы быть на порядок лучше, если бы не люди, заинтересованные в своем кармане. Коррупция процветает. Я не знаю всех деталей, кто это проворачивает. Но чиновники тоже не глупые люди: подписывая бумаги, они наверняка задаются вопросом, как может велосипед стоить 18 тысяч долларов, при том что он весит на два килограмма больше, чем должен. Это же несовместимые вещи. Но покупают...

Могу только сказать, что на мою подготовку не было потрачено ни копейки: ни на Олимпийские игры, ни на чемпионат мира. Даже президентскую стипендию, которую я должен получать, у меня сняли весной в прошлом году. А почему? Я так понимаю, что просто никто не пошел за меня слово сказать. Тренера у меня не было. Мне он как бы в Беларуси и не нужен. Но кто-то ведь за меня зарплату получал! Вот в чем прикол! Сейчас я уже знаю, кто это был. Показателен сам подход.

КРОПКІ НАД «і»

## *Міністр адукацыі патлумачыў, калі настаўнікі могуць чакаць павышэння заробкаў*

Паводле слоў **Сяргея Маскевіча**, адбудзецца гэта толькі пасля "аптымізацыі сеткі ўстаноў адукацыі". *"Сродкі, якія вызваляцца ў яе выніку, будуць накіраваны толькі на заробак настаўнікам",* — заявіў міністр. Гэта значыць, што некаторыя школы будуць проста зачынены.

А вось што тычыцца павышэння заробкаў выхавацеляў дзіцячых садкоў, то адпаведныя прапановы міністэрства ўжо накіравала ў Савет міністраў. Праўда, ніякіх падрабязнасцяў кіраўнік ведамства паведамляць не стаў.

ЭТО ТОЛЬКО НАЧАЛО

# Архитекторы предлагают МЧС и обойной фабрике поменять прописку

*Общественное обсуждение проекта планирования исторического центра Минска началось с конфликта. Что, наверное, можно было предвидеть: минчане, дома которых расположены в районе Раковского предместья, боятся в будущем потерять свое жилье. Хотя напрямую архитекторы, конечно, не заявляли об этом. Но, как говорится, опыт подсказывает: если городу выгодно, людей из старых районов переселяют на окраины. Да, таким процессам подвержены все исторические центры столиц мира. Но там людей не выселяют насильно. Там квартиры или новый инвестор, или государство выкупают. Причем по той цене, на которую согласны их владельцы. Даже в "бандитской" Москве людей не могут выселить в другой район. А в Минске — враз окажешься на окраине. И, взбудораженные своими догадками, слухами и предчувствиями, они чуть не сорвали мероприятие.*





Так позавчера **в Союзе архитекторов** начался нелегкий марафон по обсуждению будущего, которое ждет историческую часть Минска. А это, напомню, Верхний город, Троицкое и Раковское предместья, территория Минского замчища. В общем-то совсем небольшая часть столицы, по подсчетам специалистов, 0,2 процента от всей территории — но аккумулирует интересы чуть ли не всего города, только "дневного населения" (то есть людей, которые появляются здесь в течение дня по делам) более полумиллиона. Не говоря уже об автомобилях.

Собственно, в транспорте вся проблема. Начальник мастерской "Минскграда", архитектор **Александр Григорьевич Акентьев**, разработчик плана застройки исторического центра, делая доклад, неоднократно подчеркивал: пока не решим проблему транспорта, которым перенасыщен это район, пока не уберем его отсюда, сделать район настоящим туристическим центром не удастся. Две могучие транзитные магистрали, крест из улиц М.Богдановича и проспекта Победителей, делают невозможным организовать нормальное пешеходное движение по центру. Автомобильные дороги занимают до 20 процентов исторического района, офисы — 50 процентов, а культурно-просветительские объекты — всего 10 процентов. Цифры как минимум должны поменяться местами. Меньше должно стать и офисов и тем более предприятий. Обойная фабрика и хлебный завод, ОБЭП и МЧС должны быть вообще вынесены из исторического района, а одно из освобожденных зданий (МЧС на улице Революционной, бывшей Койдановской) можно отдать под малую сцену Купаловского театра. Очень интересное предложение. У исторического центра любой столицы иные функции: в этом месте он должен представлять народ с гражданских, а не коммерческо-деловых позиций.

Общественные обсуждения продолжатся в феврале.

**Елена МОЛОЧКО.**

КРИМИНАЛ

## *В Минск передали «прогон»...*

*В декабре в Объединенных Арабских Эмиратах состоялась крупная сходка "воров в законе". Как ни странно, для Беларуси это событие в каком-то смысле даже историческое.*

Принято считать, что с криминалом высокого уровня в Беларуси покончено, и что "воров в законе" в нашей стране нет. Мы так долго об этом слышали, что новость из ОАЭ просто ошарашила: сразу четыре белоруса стали "ворами в законе", еще двое белорусов, которые являются "криминальными генералами", присутствовали на сходке и решали судьбу своих собратьев. Однако соответствующий "прогон" — рукописный текст по итогам сходки, адресованный братве, — уже пошел по белорусским тюрьмам.

Итак, признание заслуг в криминальном мире получили: 33-летний минчанин Павел Алексеевич, он же Паша Паштет; житель Слуцка Олег Герасимович по прозвищу Муму, борисовчанин Руслан Лебедев, он же Лебедь, и гомельчанин Александр Медведев по прозвищу Медвежонок. Причем, по сведениям интернет-газеты "Белорусские новости", все они имеют богатый криминальный опыт, и только Руслан Лебедев никогда не сидел в тюрьме.

Белорусы, которые приехали в Дубаи "вершить судьбы", — это бывший гомельчанин, знаменитый Тимоха, он же Александр Бор, выходец из "семьи" легендарного Япончика, и Галей, он же Дмитрий Галеев, уроженец деревни Станьково Дзержинского района. Один сейчас живет в Европе, второй — в Подмосковье.

Всего после сходки в Дубаи криминальное сообщество увеличилось на 16 воров в законе. И эксперты не скрывают, что такая активность не случайна. В криминальном мире сейчас идет борьба между двумя мощными кланами — Аслана Усояна (он же Дед Хасан) и Тариела Ониани (он же Таро). Все вышеназванные белорусские воры — это клан Усояна. Он же год назад повысил в звании так называемого "смотрящего" за Беларусью Александра Кушнерова (он же Куша, или Саша Белорус), который в настоящее время находится в СИЗО КГБ.

Некоторые российские СМИ, специализирующиеся на криминальной тематике, сообщают, что противоборствующий клан — клан Таро — в ближайшее время проведет "коронацию" сразу восьми белорусских криминальных авторитетов. Но это будет означать начало настоящей криминальной войны...

**Олег СНОВ.**

## *Убили Деда*

В среду в Москве был застрелен руководитель криминального клана, долгое время почти монопольно курировавшего Беларусь. У входа в ресторан "Старый фаэтон" было совершено покушение на 75-летнего "вора в законе" Аслана Усояна, более известного в уголовных кругах по кличке Дед Хасан. В результате один из самых известных на постсоветском пространстве криминальных авторитетов получил смертельное ранение в голову. Огонь вел снайпер с крыши дома напротив.

"Война" началась?..

Как сообщил "Росбалту" источник в правоохранительных органах, с утра 17 января Москву покинула целая группа "воров в законе", другие намерены это сделать вечером и 18 января. В основном это "законники", не входившие в клан Аслана Усояна, а из России они уезжают в зарубежные страны транзитом через Беларусь.

По данным источника, "криминальные генералы" опасаются, что оперативники значительно активизируют свою работу и они могут быть задержаны под какими-либо предлогами. Также они не хотят стать объектами мести со стороны ставленников Деда Хасана.

Собеседник "Росбалта" отметил, что Москву уже покинули или уедут в ближайшее время воры в законе Джемо Микеладзе, Мераб Джангвеладзе и Ровшан Джаниев — лидеры объединенного клана гангстеров, противостоявшего клану Аслана Усояна.

Данную информацию подтвердил адвокат одного из влиятельных "воров в законе", проходящего свидетелем по уголовному делу. *"Мой клиент действительно сегодня неожиданно уехал из Москвы,* — рассказал защитник. — *Связано это с убийством или нет, я не знаю".*

ПРОШУ СЛОВА!

# Пропили совесть

*В последнее время мы редко говорим и пишем на темы морали: нравоучение нынче не в моде. Но иногда накатывает с такой силой, что молчать ста5новится невмоготу. Сегодня нужно честно признать, что, как никогда ранее, наблюдается упадок морали. И нам всем очень серьезно нужно задуматься, что будет дальше...*

Регулярно смотрю телепередачу "Зона Х", и у меня мурашки по телу бегают, а волосы на голове дыбом встают от того негатива, который, к сожалению, у нас имеет место. А посмотрите, какие фильмы нам показывают, особенно по НТВ. Что ни кино — так сплошной обман, пьянство, насилие, грабежи и убийства. И все это ради денег, ради наживы. Что такие фильмы могут воспитать в нашем подрастающем поколении? О какой чистой совести здесь может идти речь? А все эти "прелести" мутным потоком льются изо дня в день на незрелое сознание нашей молодежи. Видимо, поэтому молодые люди могут не уступить место в транспорте старушке или беременной женщине, зато способны ограбить, избить (а то и убить)...

У меня часто возникает вопрос: а где ленты, которые приятно было бы посмотреть? Когда мы увидим на наших телеэкранах кинофильмы по произведениям Василя Быкова, которого я считаю совестью нашей нации? Наверное, не доживу...

Продолжает процветать и пьянство. Наконец-то додумались запретить вина, которые в народе называют "чернила". Неизвестно, правда, надолго ли? Почти каждый день вижу у магазина опустившихся мужчин и женщин, которые клянчат тысячу-другую... Эти люди, если их так можно назвать, пропили самое главное — совесть! Это беда!

Нельзя сказать, что с этими преступлениями не ведется борьба, но она, на мой взгляд, недостаточная со стороны милиции. Но вот что я в связи с этим хочу отметить: у нас довольно часто меняют министров внутренних дел, появляются новые генералы, а главных исполнителей на местах — участковых — постоянный некомплект, поэтому нет должного порядка в наших дворах и на улицах. Согласен, что определенные меры воздействия принимаются, но все они носят локальный характер, а сама болезнь, у которой есть много названий — равнодушие, невоспитанность, хамство и так далее, запускается. В основе ее лежит не что иное, как падение морали нашего "продвинутого" общества. О какой чистой совести может идти речь, если в верхах процветает коррупция?..

И все же, справедливости ради, надо отметить, что среди молодых людей есть и те, у кого совесть чиста. Это и вселяет надежду на лучшее завтра. А напоследок приведу золотые слова из Евангелия, правота которых подтверждается из поколения в поколение: *"Что посеет человек, то и пожнет"*. Вспоминайте эти слова почаще и повторяйте их своим детям и внукам, чтобы они выросли добрыми, трудолюбивыми, честными, любящими свою родную землю людьми с чистой совестью.

**Юрий ЯСИНСКИЙ,**
**ветеран труда и спорта,**
**заслуженный**
**тренер БССР.**

ПАМЯЦЬ

## *Яго завоблачная вышыня*



*25 студзеня Уладзіміру Высоцкаму споўнілася б 75 гадоў.*

Ён не меў высокіх званняў, але быў самым народным.

Ведаеце, па-мойму, сёння ніхто не можа дакладна сцвярджаць, кім быў Уладзімір Высоцкі — паэтам, спеваком, акцёрам? Але я цвёрда ведаю, што ён быў асобай.

Кажуць, што ва Уладзіміра Высоцкага з юнацтва была мянушка — Вышыня, і, як паказала яго далейшае, на жаль, кароткае жыццё, гэта была сапраўдная, нават завоблачная вышыня!

А хто памятае, як яго хавалі?.. Паверце, я ніколі не бачыў такога згуртавання супольнасці тысяч людзей, аб'яднаных агульным болем, стратай улюбёнца...

Яго памятаюць і сёння.

Асабіста я, калі чытаю яго вершы, нават сам сабе, то чую яго голас за кожным радком, за кожным словам... І такіх шмат, хоць у кожнага, вядома, ёсць свой Высоцкі.

Успомнілася, як некалькі гадоў таму ў чарговы Дзень Перамогі я з драўлянай сцэны ў Парку імя Горкага прачытаў два вершы Высоцкага: "Ён не вярнуўся з бою" і "Брацкія магілы". Калі сышоў са сцэны, да мяне падышла пажылая пара ў форме ваенных гадоў з ордэнамі і медалямі. Яны падзякавалі мне і падаравалі сціплы букецік кветак. Сыходзячы, жанчына са слязьмі на вачах ціха, з болем у голасе сказала: *"А мой не вярнуўся..."*

Перакананы, што гэтыя ветэраны вайны падзякавалі не толькі мне, але, вядома, і аўтару — Уладзіміру Высоцкаму.

І яшчэ ў яго вершах ёсць памяць. Памяць пройдзеных дарог і гадоў, што прамільгнулі. Наша з вамі памяць...

З павагай —

**Юрый СЯДОЙ.**

МНЕНИЕ

# Разделяй и властвуй!

После парламентских выборов 2012 года усилились разговоры о реформировании политической системы в стране. Даже Александр Лукашенко уже несколько раз рассуждал на эту тему.

Опыт развитых стран мира действительно показывает, что чем активнее политическая жизнь в стране — действуют механизмы, гарантирующие политические и экономические свободы граждан, обеспечивается неукоснительное соблюдение прав человека, тем эффективней экономика и выше жизненный уровень населения.

Авторитаризм же — как перевернутая пирамида. Необъятная свобода власти, богатство и права — наверху, почти полное отсутствие всего этого — внизу. Активная политическая жизнь в стране губительна для автократических режимов в принципе.

Не знаю, кто в команде президента оказался таким стратегом, возможно, Лукашенко сам, но взятый с первых лет правления курс на "атомизацию", то есть максимальное раздробление политического общества в Беларуси, оказался весьма эффективным. Сейчас на политическом поле — равнина, только изредка встречаются небольшие бугорки. Сработал принцип "Раздробляй и властвуй!".

Началось с Белорусского Народного Фронта, который в начале 1990-х годов являлся серьезным оппонентом правящей компартии. К тому же лидер БНФ Зенон Пазьняк стал соперником других кандидатов в президенты на выборах 1994 года. Кто же погубил БНФ?

Вряд ли это было следствием злонамеренных действий Винцука Вечорки и Юрия Ходыко. Раскол БНФ и последующая эмиграция Зенона Пазьняка были крайне выгодны новой власти, Лукашенко. Не исключено, что сообщение Пазьняку об угрозах в его адрес было способом вытеснения его из страны. Кто настойчиво доносил ему эти угрозы? Об этом история умалчивает. Хотя Зенон Пазьняк — яркий политик, разумный человек, но, к сожалению, его поезд ушел.

Драматические события разыгрывались и на левом фланге. После запрета Коммунистической партии Белоруссии многие рядовые члены и партийные функционеры влились в Партию коммунистов Беларуси, которая фактически стала преемницей КПБ. Но это продолжалось недолго. Власть фактически подкупила верхушку старой партии (кого должностями, кого пенсиями за особые заслуги), сумела вычленить группку функционеров и снова воссоздать, хотя и малочисленную, КПБ. Теперь эту квазипартию объявляют основной. Разве может считаться коммунистической партией партия, которая поддерживает авторитаризм?!

Еще более пестрая картина на социал-демократическом поле. Партий на нем несколько. "Разброд и шатания", как говорили когда-то. Попытки лидера ПКБ Сергея Калякина объединить социал-демократов были тщетны. Мне кажется, что даже последующее изменение названия партии ПКБ на "Справедливый мир" не повлияло на сближение позиций. А роль "невидимой руки" просматривается хорошо.

Пример. Белорусская социал-демократическая Громада (Народная Громада ). В 1995 году ее возглавил Николай Статкевич. Было сделано все, чтобы лишить партию чересчур активного, по мнению власти, руководителя. Не без помощи "штрейкбрехеров" Статкевич был исключен из партии, а новую до сих пор не сумел зарегистрировать в Минюсте. После событий 19 декабря 2010 года и вовсе был осужден. По моему глубокому убеждению — безосновательно.

Белорусская социал-демократическая партия (Громада). В 2005 г. председателем партии был избран Александр Козулин, выдвинутый впоследствии кандидатом в президенты. В ходе избирательной кампании он показал себя непримиримым оппонентом основного кандидата. После выборов тоже был осужден. Когда Козулин находился в заключении, кто-то сумел организовать кампанию по выборам нового председателя партии. Поп Гапон был найден. Им стал некто амбициозный Анатолий Левкович, который очень скоро проявил себя как соглашатель. В итоге Левкович был изгнан из партии, но свою провластную деятельность не прекратил. Ныне он занят созданием некоего просветительского объединения и все время старается подбить оппозицию на диалог с властью без предварительных условий.

Вот такие социал-демократы в кавычках есть в Беларуси.

Власть сделала попытку приручить и руководство Объединенной гражданской партии. Однако возможный кандидат-соглашатель "Ярик", он же Ярослав Романчук, не оправдал надежд, не сумел оттеснить от лидерства в партии Анатолия Лебедько.

По итогам парламентских выборов этого года ОГП зарекомендовала себя как серьезная политическая сила, стала причиной головной боли для власти. Поддержав активную часть оппозиции, объявившей бойкот нелегитимному режиму, партия избрала оригинальную тактику пропаганды идеи бойкота в рамках избирательной кампании. Ее кандидаты-спикеры, выполнив свою миссию, снялись с выборов, призвав избирателей к бойкоту.

Анализ данных НИСЭПИ по итогам выборов показал, что политический бойкот состоялся. Активно бойкотировали режим сотни тысяч человек. Это не считая избирателей, которые никогда не ходят на выборы. Давайте прямо скажем: в Минске выборы фактически не состоялись. Что бы и кто ни говорил, это — результат.

С ОГП власти нужно что-то делать. И не успели закончиться избирательные баталии, как на политическом поле стал демонстрировать высокую активность "неполитический" деятель — Владимир Мацкевич, координатор "Национальной платформы". Недавно он вообще самопровозгласил себя лидером гражданского общества. И все было бы ничего — любой человек может иметь желание достичь высот, но вот что обращает на себя внимание: слишком часто Мацкевич "наезжает" на руководство ОГП. А в недавнем интервью "БелГазете" проявилась основная цель этих речей: ОГП должна "влиться в широкое демократическое движение", то есть в "Национальную платформу".

Неизвестно, это изобретение самого Мацкевича или кого-нибудь другого? Но появился новый оригинальный способ ликвидации действующей партии путем поглощения ее аморфным псевдополитическим образованием. А ведь мы это уже проходили.

Помнится, что, когда образовалось движение "За Свободу", никто не предполагал, что произойдет большая утечка кадров из действующих партий. Но она случилась. А в случае Мацкевича речь идет о целой партии. "Люди, будьте бдительны!" — эти слова чешского патриота должна помнить оппозиция сегодня. "Вытаптывание" политического поля будет продолжаться.

Пока же политическая реформа власти свелась к смене персон в руководстве КПБ. Создание партии власти на базе провластной структуры "Белая Русь" отложено на неопределенное время. Лукашенко, видимо, пока не нуждается в ней. Не исключаю даже, что он просто опасается получить альтернативную политическую силу. Все-таки он считает, что политик в нашей стране должен быть один...

В лагере оппозиции обычный для политического межсезонья кавардак. Вместо того, чтобы консолидировать свои немногочисленные силы на решение конкретных задач (например, в рамках проекта "За честные выборы" или организацию протестных акций против волюнтаристского разбазаривания национальных богатств, создания коалиции партий) оппозиция погрязла в склоках и междусобойчиках. Эгоистичные устремления некоторых лидеров и лидерчиков не имеют границ.

Так и хочется сказать им словами известного российского журналиста Вячеслава Костикова: "Граждане демократы! Хватит писать друг другу на ботинки. Возьмитесь за дело! Подумайте о Беларуси!"

**Эдуард ВАСИЛЬЕВ,**
**пенсионер.**

*Минск.*

*Эдуард АКУЛІН*

# З новай кнігі «Малітва воч»



## Дарога ў рай

*З навагодняга перадзім'я,*
*проста з казкі, з калядных сноў*
*ты з'явілася, як багіня,*
*і сказала: "Я ёсць Любоў".*

*І грахоўны, нібыта Каін,*
*я глядзеў на цябе скрозь сон,*
*і біблейскія бачыў далі,*
*і руно, што шукаў Ясон...*

*Песню песняў табе складаў я*
*сорак доўгіх, халодных зім.*
*Наўзамен ты душу ў Граалі*
*падала мне, сказаўшы: "Пі!"...*

*Я забыўся, адкуль і хто я,*
*мне адкрыўся анёльскі край,*
*бо нарэшце спазнаў, якое —*
*пачуццё па дарозе ў рай...*

## Мара

*Патануць у адрыне з сенам*
*і пражыць там да ста гадоў...*
*Размаўляць пра жыццё з Верленам,*
*маладое п'ючы віно.*

*Прачынацца у іншым свеце —*
*хоць на поўні — там лепш за ўсё...*
*І сыры на сняданак есці,*
*маладое п'ючы віно.*

*Не вяртацца на ноч дадому.*
*Жабраку падарыць мільён...*
*Вершы Богу чытаць з амбона,*
*як калісьці любіў Війён...*

## Ніцма

*Перад лікам*
*святой бажніцы*
*кленчу ніцма,*
*Айца малю:*
*— Божа літасны,*
*до гнявіцца...*
*Жыватворнаю*
*Плашчаніцай*
*ахіні*
*Беларусь*
*маю.*

## Дараванне

*Стаючы паміж дзвюх дарогаў,*
*выбіраю не рай, а грэх.*
*Я прашу даравання ў Бога, —*
*толькі бачу вочы твае...*

*Ночы ў сноў адняла трывога,*
*перарваўся анёльскі спеў.*
*Я прашу даравання ў Бога, —*
*толькі бачу вусны твае...*

*Праклінаючы ў думках злога,*
*у пустой, як душа, царкве*
*я прашу даравання ў Бога, —*
*толькі бачу грудзі твае...*

*Прынікаючы да нічога,*
*у сляпой, як сусвет, журбе,*
*я прашу даравання ў Бога, —*
*я прашу дараваць цябе...*

## Кроў Хрыста

*На каменных каленях стодаў,*
*на дрыжачых руках Каіна,*
*у вар'яцкім паглядзе Ірада,*
*на святой Плашчаніцы,*
*у разорах "Слова аб палку Ігаравым",*
*на прасцінах згвалтаванай Рагнеды,*
*на штандарах Вітаўта Вялікага,*
*на вусцішы Варфаламееўскай начы,*
*на амбоне Сафіі Полацкай,*
*у снах Кастуся Каліноўскага,*
*на падушцы Максіма Багдановіча,*
*у зялёных жылах вінаградніка,*
*на пагонах Гітлера і Сталіна,*
*на кашулі Джона Ленана,*
*у кропельніцах чарнобыльскіх хоспісаў —*
*кроў Хрыста,*
*кроў Хрыста,*
*кроў Хрыста.*

## Жыві!

*Я на сэрцы выкаваў Пагоню!*
*Я Пагоню ў сэрцы пасяліў...*
*І цяпер у сэрцы маім звоняць*
*шчыт аб меч — аж пырскі ад крыві.*

*Дзень і ноч, каб мовы не пазбыўся!*
*Дзень і ноч, каб Край свой не прадаў!*
*Дзень і ноч, каб слухаў і маліўся,*
*як на звон Сафійкі Манамах.*

*Я на сэрцы выкаваў Пагоню,*
*і душа зайшлася ад Любві,*
*як крывёй у Ялце Багдановіч,*
*выдыхнуўшы Смерці ў твар: — Жыві!*

## Не так

*Нешта ў свеце гэтым не так...*
*Храм разбурылі — зрабілі вятрак.*
*І з той пары у наіўных людзей —*
*вечар без хлеба і дзень без надзей.*

## Дар

*Плуг — аратаму, каб араў.*
*А паэту Гасподзь даў крылы,*
*каб над пожняй жыцця лятаў —*
*не баяўся дрыгвы-магілы.*

*Нож — Вараву, каб рабаваў,*
*А паэту — пяро жар-птушкі,*
*каб, як Лорка, ім напісаў:*
*— Мама, вышый мяне на падушцы...*

*Грошы — дурню, каб бедным стаў.*
*А паэту Гасподзь даў Слова,*
*каб Галгофу жыцця спазнаў,*
*а сканаўшы, пачаў нанова...*

ЗЕМЛЯКІ



# Каляды ў Іркуцку

У Іркуцку адсвяткавалі беларускія Каляды. Больш за 16 гадоў тут існуе Рэгіянальнае грамадскае аб'яднанне "Іркуцкае таварыства Беларускай культуры імя Я.Д.Чэрскага" (ІТБК), і за ўвесь гэты час традыцыя збірацца на Каляды не прыпынялася ні разу!

Памятаецца ўжо далёкі 1997 год, калі ўпершыню на Каляды мы сабраліся ў актавай зале школы №31 мікрараёна "Зялёны" і сваімі, тады яшчэ сціплымі, сіламі правялі гэтае свята. Але вось што дзіўна: з першага разу стыль правядзення Калядаў не змяніўся ні разу. Ды і як яму змяніцца: гэта ж Абрад! А ён павінен праходзіць традыцыйна!

Схема нашых Калядаў была заўсёды адна і тая ж. Спачатку канцэрт нашых творчых калектываў і індывідуальных талентаў (але ўсё па-беларуску!), затым калядны блок з гумарам і традыцыйнымі песнямі, а потым танцы і бяседа (з тостамі і добрымі, зноў жа традыцыйна беларускімі закускамі).

Пачынаючы з 2007 года з'явілася яшчэ адна выдатная традыцыя. Да нас на Каляды пачалі прыязджаць з канцэртнай праграмай знакамітыя артысты з Беларусі.

У 2007 годзе — лідар рок-гурта "Новае неба" Кася Камоцкая.



У 2008 годзе — бард і артыст тэатра і кіно Віктар Шалкевіч.

У 2009 годзе — кампазітар і музыкант, лідар гурта сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса" Зміцер Сасноўскі.

У 2010 годзе — бард, паэт, кампазітар Алесь Камоцкі.

У 2011 годзе — бард, кампазітар, паэтка Таццяна Беланогая.

У 2012 годзе — этнарок-музыкант, кампазітар Зміцер Вайцюшкевіч.

І вось у гэтым, 2013-м, годзе нас наведаў Аляксандр Памідораў, легенда беларускага рэпа!

Сказаць, што нам лёгка даецца запрашэнне знакамітых беларускіх артыстаў у Іркуцк на Каляды, было б няправільна. Арэнда залы, аплата пералёту з Мінска ў Іркуцк і назад, экскурсіі, паездкі на Байкал і так далей — гэта ўсё патрабуе значных выдаткаў. І кожны раз асабіста я не ўпэўнены, ці змагу знайсці грошы на чарговыя Каляды. Але, азіраючыся назад ужо пасля правядзення свята, з упэўненасцю можна сказаць: добра, што да нас прыязджаюць такія таленавітыя зоркі беларускай песні.

Бо кожны такі прыезд прыносіць не толькі клопат, але і стварае святочны настрой на некалькі дзён. Зносіны, абмен думкамі, знаёмства іркуцкіх беларусаў з артыстамі з метраполіі, магчымасць параўнання і магчымасць для нас, сібіракоў, адзначыць каларыт кожнага госця — гэта дарагога варта!

Як мінімум яшчэ некалькі месяцаў блукаюць сярод прыбайкальскіх беларусаў згадкі: "А памятаеш, як Памідораў заспяваў песню "Дзень без гарэлкі"?".

Проста выдатна, што на "Калядных сустрэчах" мы можам убачыць часцінку нашай гістарычнай Радзімы! Пагутарыць на жывую з таленавітымі суродзічамі з Бацькаўшчыны!

**Алег РУДАКОЎ.**

*г.Іркуцк.*

АСОБА

# Кобрынскія карані «Кодака»

У 1828 годзе ў маёнтку Мацы, што за 15 кіламетраў ад Кобрына і за адзін кіламетр ад тых мясцін, дзе жыву я, нарадзіўся Уладзіслаў Малахоўскі.

На той час у Мацах жыло каля 300 насельнікаў. Малахоўскія былі ўладальнікамі 415 дзесяцін зямлі. Зусім блізка была вёска Стрыгава — цэнтр воласці. Там былі праваслаўная царква, валасное ўпраўленне, народнае вучылішча, школа, хлебазапасны магазін, карчма і бровар.

Пасля хатняга навучання Уладзіслаў Малахоўскі набываў веды ў Свіслацкай гімназіі, затым у Пецярбургскім інстытуце шляхоў зносін. Менавіта ў Пецярбургу яго апанавалі ідэі вальналюбства, і менавіта там ён пазнаёміўся з Кастусём Каліноўскім.

А калі ў 1862 годзе К.Каліноўскі ўзначаліў паўстанцаў, Малахоўскі прыклаў шмат намаганняў, каб ператварыць гэтае выступленне ва ўсерасійскае сялянскае паўстанне за зямлю і волю.

На гэты час Ул.Малахоўскі займаў пасаду начальніка паўстанцаў Вільні. І на яго плечы легла цяжкая адказнасць за вырашэнне лёсаў тых, каго паўстанцы лічылі найбольш вінаватымі перад народам. Зразумела, такая "зачыстка" выклікала бязлітасную жорсткасць з боку ўлады.

Малахоўскі разумеў, што яму далей у Вільні заставацца небяспечна, таму ў жніўні 1863 года адправіўся за мяжу, у Кёнігсберг, дзе стаў прадстаўніком К.Каліноўскага, займаючыся закупкай і дастаўкай зброі для паўстанцаў. Пасля разгрому паўстання яму ўдалося (відаць, за вялікія грошы) пазбегнуць арышту. І, атрымаўшы англійскі пашпарт, ён выехаў у Лондан. Яму было 36 гадоў.

У Лондане Ул.Малахоўскі стварыў уласную фірму, і ўжо праз пяць гадоў яе ведала ўся Еўропа. А займаўся наш зямляк фотасправай. Як інжынеру, Малахоўскаму ўдалося значна ўдасканаліць сам працэс фатаграфавання. Фотапласцінкі ён замяніў на плёнку, пакрытую бромсерабром. Ягонае адкрыццё выклікала пераварот у сусветнай фотасправе. Гэта быў 1878 год.

Уладзіслаў Малахоўскі стаў выязджаць у розныя краіны, прапаноўваючы сваё адкрыццё. Не абмінуў ён і Расію. Калі ў Маскве ў 1882 годзе праходзіла Усерасійская выстава, Малахоўскага нават узнагародзілі медалём.

Невядома, ці прыязджаў Ул.Малахоўскі на сваю малую радзіму. У маёнтку, напэўна, яшчэ былі жывыя бацькі або хто з родзічаў...

Але разам са славай заўсёды ідзе зайздрасць. Знайшліся тыя, хто яго "падставіў". Пачаліся судовыя працэсы.

Віну яго не даказалі. Але маральная рана ў душы засталася. І як вынік — у 1900 годзе ў Жэневе Малахоўскі скончыў жыццё самагубствам. Там і пахаваны. І, мусіць, ягоную магілу ўжо ніхто не шукае.

А цяпер наконт "Кодака". Знакамітай на ўвесь свет фірмы магло і не быць, калі б гэтую касету не прыдумаў наш зямляк — літвін з-пад Кобрына Уладзіслаў Малахоўскі (з англійскім пашпартам на імя Леона Варнеркі).

Што ж засталося ад маёнтка Мацы, што пад Кобрынам?

А нічога! Нават каменя з падмурка. І прозвішча такога няма ў мясцовым тэлефонным даведніку. І каменя на могілках няма з прозвішчам Малахоўскі. Ёсць толькі невялікая даведка ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі"...

**Ніна МАРЧУК,**
**краязнаўца.**

*Кобрынскі раён.*

ВОПРОС—ОТВЕТ

## *Надо ли разрешение на пневматическое оружие?*

***На пресс-конференции Александр Лукашенко рассказал о новогоднем подарке младшему сыну Коле. Мол, тот попросил у Деда Мороза "какое-то пневматическое оружие... Спецназовец будущий...". У Коли Лукашенко, как я понимаю, уже не первое оружие в коллекции, раньше ему дарил пистолет Дмитрий Медведев. Любопытно, а надо ли иметь разрешение на пневматическое оружие?***

**А.Дорош, Брестская область.**

Отношения, возникающие при обороте оружия на территории Республики Беларусь, регулируются Законом об оружии. В этом документе четко сказано, что пневматическое оружие с дульной энергией не более 7,5 Дж регистрации не подлежит и приобретается без получения разрешения. Стрелять из пневматики детям небезопасно, поскольку они не знают правил обращения с оружием. Хотя в "Тир-центре" Минска нам рассказали, что разрешают стрелять по мишеням детям в возрасте 6 и даже 4 лет, но "только в присутствии инструктора".

Другое дело, что подарок этот не из дешевых. Сегодня в Минске через интернет-объявления купить пневматическое оружие можно за 150—400 долларов.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

